28 ТРАЎНЯ 1999г. ПЯТНІЦА

# НАВІНЫ

№58 (589) КОШТ СВАБОДНЫ




# НАВІНЫ хочуць закрыць, бо мы за СВАБОДУ

ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ДРУКУ | ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ПО ПЕЧАТИ

220048, Мінск, праспект Машэрава, 11 Тэл. (017) 223 92 31, факс (017) 223 34 35 | 220048, Минск, проспект Машерова, 11 Тел. (017) 223 92 31, факс (017) 223 34 35

21.05.99 г. № 28

на №

**ПРЕДУПРЕЖДЕНИЕ**

**о нарушении Закона Республики Беларусь «О печати и других средствах массовой информации»**

«21» мая 1999 г. № 28

Редакции газеты «Навіны» на основании ст.16 Закона Республики Беларусь «О печати и других средствах массовой информации»

*В соответствии со ст. 5 Закона Республики Беларусь «О печати и других средствах массовой информации» не допускается использование средств массовой информации для разжигания социальной нетерпимости либо розни и посягательства на честь и достоинство граждан.*

*Государственный комитет Республики Беларусь по печати, изучив статью А.Дубравина «Карбункулы законности» (N 51 от 12.05.99 г.), считает, что в ней содержатся сведения, направленные на разжигание социальной нетерпимости и посягательство на честь и достоинство граждан.*

*В статье в оскорбительной форме представлен образ сотрудников правоохранительных органов: «...при словах "офицер милиции" в голове возникает образ помятого, давно не стриженого краснолицего дядьки в брюках с пузырями на коленях, с отвисшей мотней, с небольшим пузом, оттопыренным задом, торчащим сквозь прорехи мышиного мундира, и кобурой, набитой ватой».*

*Противопоставляются работники милиции и остальные граждане: «Только не наши люди обижаются, когда их избивают резиновыми палками на разрешенных митингах откормленные узколобые паренькu, когда хватают на улицах и волокут в мрачные прокуренные опорные пункты неизвестные люди в грубых кожаных куртках, пошитых из голенищ офицерских сапог». Приписывается работникам милиции постоянное применение недозволенных методов ведения допросов и пыток в отношении граждан: «...их бросают в мрачные средневековые застенки, где заплечных дел мастера мучают и пытают людей».*

*Материалы статьи порочат деловую репутацию судов, прокуратуры и юстиции: «...их ведут в суды, где наши честные милиционеры дают честным судьям ложные показания», «...на все это спокойно взирают все законники страны, во главе с главпрокурором и министром юстиции».*

*Оскорбляется честь и достоинство офицеров и прапорщиков Вооруженных Сил Республики Беларусь: «О благородстве офицеров армии и говорить нечего, особенно после того, как все, что можно, разворовали прапорщики».*

*Исходя из вышеизложенного, Государственный комитет Республики Беларусь по печати приходит к выводу, что в данной статье содержатся сведения, направленные на разжигание социальной нетерпимости и посягательство на честь и достоинство граждан, что является злоупотреблением свободой массовой информации.*

*На основании изложенного и руководствуясь ст.16 Закона Республики Беларусь «О печати и других средствах массовой информации», Госкомитет Республики Беларусь по печати предупреждает редакцию газеты «Навіны» о недопустимости нарушения ст.5 в части разжигания социальной нетерпимости либо розни и посягательства на честь и достоинство граждан.*

*Предупреждение может быть обжаловано в течение одного месяца в Высший Хозяйственный Суд Республики Беларусь.*

***Председатель М.В.Подгайный***

## КАМЕНТАР НАВІНАЎ

Два дні назад рэдакцыя газеты атрымала чарговае папярэджанне Дзяржкамдруку. Ягоная відавочная штучнасць не пакідае сумневу, што ўрадавыя органы вырашылі адняць у нашага чытача крыніцу праўдзівай інфармацыі. Падстава простая: неадваротна набліжаецца 20 ліпеня — апошні дзень легітымнасці прэзідэнта Лукашэнкі, і ўлады выконваюць «вышняе» жаданне пра знямелую прэсу.

Іх раздражняе голас праўды, патрабаванні свабоды для грамадства, заклікі да з'яднанасці супраць папіханьня Канстытуцыі краіны. Аўтарытарны рэжым, які ўсталяваў Лукашэнка, фізічна не пераносіць крытыкі ў свой адрас, яго злуюць тыя прамяні святла, якімі высвечваецца на старонках НАВІНАЎ дзяржаўная здрада, названая інтэграцыяй, масавае збядненне, развал эканомікі, створаная атмасфера боязі, рэпрэсіі, абрынутыя на апазіцыйныя партыі, рухі і асобных дысідэнтаў.

НАВІНЫ падтрымліваюць пазіцыю тых здаровых сілаў народа, што жадаюць бачыць Беларусь шчаслівай, незалежнай, заможнай. Рэжыму патрэбная іншая Беларусь: шчаслівая ад мізэрнай падачкі, прададзеная Расіі на правах правінцыі, скораная і паслухмяная. Такое становішча рэжым называе «сацыяльнай гармоніяй». Любое адмаўленне гэтакай абразлівай «гармоніі» можа трактавацца як заклік, небяспечны для сацыяльнага спакою ўладарных слаёў, і пераследавацца. Што і засведчылі папярэджанні падначаленага кіраўніку выканаўчай улады Камітэта па друку.

Маючы вопыт знішчальнага дзеяння падобных папярэджанняў, якія год таму задушылі СВАБОДУ, рэдакцыя паведамляе чытачам, што газета не знікне на тым апошнім нумары, якім закончыць існаванне НАВІНАЎ судовы вырак.

Рэдакцыя даводзіць да ведама сваіх падпісчыкаў і прыхільнікаў, што калі НАВІНЫ будуць закрытыя, нашыя чытачы атрымаюць новую газету - НАША СВАБОДА. Мы заўсёды будем разам з вамі!



Міхаіл Падгайны, чалавек, які падпісвае смяротныя прысуды незалежным газетам

## наша свабода

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Мілошавіч аб'яўлены ў вышук

Міжнародны трыбунал па ваенных злачынствах у Югаславіі афіцыйна прызнаў прэзідэнта Югаславіі Слабадана Мілошавіча ваенным злачынцам і выдаў ордэр на ягоны арышт. Учора ў Гаазе Галоўны пракурор трыбунала Луіза Арбур афіцыйна абвясціла пра гэтае рашэнне. Мілошавіч абвінавачваецца ў генацыдзе супраць мірнага насельніцтва Косава, а таксама ў масавых знішчэннях людзей падчас вайны з Босніяй. Учора ж Кангрэс ЗША вырашыў падтрымаць рашэнне міжнароднага суда і аказаць міжнароднай супольнасці дапамогу ў вышуку злачынцы, у тым ліку — і прадставіць дадзеныя сваёй выведкі.

***Расціслаў ПЕРМЯКОЎ***

### З пацяпленнем ажылі «паветраныя забойцы»

Пасля перапынку, звязанага з травеньскімі халадамі, узнавіўся напад насякомых-крывасмокаў на хатнюю жывёлу. Гэта стала вынікам павышэння тэмпературы паветра, якое выклікала другую хвалю генерацыі гнюсу. Калгасы паўднёвых раёнаў рэспублікі вымушаныя перайсці на начную пасьбу, а таксама ўзмоцнена займацца хімічнай апрацоўкай жывёлы. Вялікага падзяжу пакуль не назіраецца.

***Аляксей ШЫДЛОЎСКІ***

### Суд ідзе

Сёння ў судзе г.Кіраўска Магілёўскай вобласці будзе агалошаны прысуд двойчы герою сацыялістычнай працы, легендарнаму старшыні калгаса «Рассвет» Васілю Старавойтаву і двум ягоным былым падначаленым Алегу Шапавалаву і Аляксандру Яўстратаву. Усе яны абвінавачваюцца ў шэрагу эканамічных злачынстваў, а Васіль Старавойтаў яшчэ і ў арганізацыі злачыннай групоўкі ды незаконным захоўванні зброі. Старавойтаву пракурор прасіць даць 5 гадоў турмы, А.Шапавалаву — 10, А.Яўстратаву, які «актыўна супрацоўнічаў са следствам», — 8 гадоў зняволення. Абвінавачаныя віну сваю прызнаюць фактычна цалкам, акрамя Васіля Старавойтава, які пагаджаецца са следствам часткова.

***Алег ГРУДЗІЛОВІЧ***

## НАДВОР'Е




**29 траўня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Вецер няўстойлівы, слабы. Тэмпература паветра ўначы 5—10. **30 траўня** месцамі кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні, 5-10 м/с. Тэмпература паветра ўначы 7—12.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

# Возвращаясь к «Проекту «Гончар»



**Статья «Проект «Гончар», опубликованная в нашей газете 19 мая, вызвала огромный резонанс. На редакцию обрушился шквал звонков и писем. Читатели разделились приблизительно поровну: одни ругали газету и автора, грозя тем, что откажутся от подписки; другие же наоборот – благодарили и высказывали слова поддержки. Мы сочли нескромным публиковать те письма, в которых нас хвалят, и решили ознакомить вас с теми типичными письмами, в которых высказывались претензии как к газете, так и к автору материала.**

*Чиатйте материал на стр.6*

ПЯТНІЦА З МІКАЛАЕМ ХАЛЕЗІНЫМ

## Непруха

Нашему президенту не повезло со страной. Неудачная досталась. Вот Клинтону свезло - ему перепала Америка. Откормленная, сильная, чистая. С ядерным оружием. Или вот Шредеру... Тоже неплохая. Настырная, если не сказать наглая. Дружелюбная, если не сказать навязчивая. С пивом неплохим, кстати. И с ядерным оружием.

У нас тоже вроде как с пивом. И тоже наглая местами, под стать немцам. Но без ядерного оружия, блин. Да еще с напастями разными. Вот взять хотя бы последние месяцы... Помните, как в начале весны потеплело? Так сразу к нам, в теплые края, пернатые потянулись. Только в нормальные страны журавли да аисты, а к нам мошка, которая нашим коровам в носы набилась и половину поголовья скосила. Как покойная корова языком слизала.

А помните, как после тепла вдруг похолодало? Как раз когда мы после селекторного совещания сеяться начали. Так непогода весь наш семенной фонд и сгубила. Теперь мы по второму разу сеяться будем. Повезло узбекам - они по два урожая зерновых в год собирают. А мы по два раза сеемся. Да по два раза на горючее тратимся. Да по два раза в месяц деньги печатаем.

А как Квасневскому с Гавелом повезло! Они сколько денег попросят - им столько и дают. На миллиарды счет идет. Мы 100 миллионов попросили - нам от МВФ фиг что дали. Там статья такая есть: "за экономический капец, по не зависящим от нас обстоятельствам". Мы думали, что на кризисе россиян хоть сотню миллионов заработаем. А нам сказали: "Как это по не зависящим от вас? Это самые что ни на есть ваши родные обстоятельства". Пытались наши монетаристы иноземцам объяснить, что это, мол, нашему президенту неудачная страна досталась, да им на это дело плевать.

Одна радость - наш руководитель цены остановил. Урожая не будет, так хоть недорого. Теперь будет дешево нечего купить. Хотя и тут агрессорам больше повезло - у них цены сами стоят. Правда, нам это понять тяжеловато. Ведь сами-то они стоять не могут... Да еще по праздникам снижаться.

Вот так и получается - одним все, а другим ничего. Почему так выходит, непонятно. Как какой-нибудь капиталист типа Ширака, Блэра или Клинтона, так им и страны нормальные попадаются. А если нормальные славянские пацаны вроде Милошевича, Хусейна или нашего президента - так им... В общем, одни неприятности.

# РНЕ хоча легалізавацца

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Прадстаўнікі беларускай філіі расійскай прафашысцкай арганізацыі РНЕ падалі дакументы на рэгістрацыю ў міністэрства юстыцыі. Мясцовыя баркашоўцы ў афіцыйных дакументах сціпла назвалі сябе «рэспубліканскім грамадскім аб'яднаннем».**

Як паведаміў нам лідэр рускіх фашыстаў у Беларусі Глеб Самойлаў, афіцыйна зарэгістравацца іх папрасілі нейкія ўплывовыя людзі з уладных структураў. Да гэтага часу баркашоўцы дзейнічалі ў нашай краіне пяць гадоў, і, па словах «партайгеносэ» Самойлава, ніякіх праблемаў з уладамі ў нацыстаў не было. Наадварот, у Мінску ім удалося зарэгістраваць сваю філію пад шыльдай ваенна-спартыўнага клуба «Коловрат». Але, відаць, апошнія скандальныя здарэнні, у якіх удзельнічалі фашысцкія «байцы» (бойка з сябрамі Хартыі'97, сутычкі з маладафронтаўцамі і г.д.) прымусілі баркашоўцаў і іхных прыхільнікаў ва ўладных структурах шукаць легальных шляхоў дзейнасці. Таму, як паведаміў Глеб Самойлаў, фармальна яны правялі сход заснавальнікаў, у якім удзельнічала 52 чалавекі з усіх абласцей Беларусі, і перадалі дакументы ў мін'юст.

Начальнік мін'юстаўскага ўпраўлення па рэгістрацыі палітычных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў Міхаіл Сухінін паведаміў толькі, што пытанне рэгістрацыі РНЕ вывучаецца, а афіцыйны адказ нацысты атрымаюць на працягу месяца. Сухініну пакуль цяжка сказаць, ці будзе гэтая арганізацыя зарэгістраваная. Відаць, ёсць над чым падумаць і міністэрскім чыноўнікам, і людзям з адміністрацыі прэзідэнта. Пакуль маскоўскі мэр Юрый Лужкоў вядзе барацьбу з гэтай заразай у расійскай сталіцы, у Мінску фашысты спрабуюць атрымаць ліцэнзію на легальную дзейнасць, а беларускія ўлады глядзяць на дамарослых нацыстаў скрозь пальцы. ■

# Праведнікі атрымалі медалі

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Учора ў амбасадзе Ізраіля адбылася цырымонія ўшанавання Праведнікаў Народаў Свету — беларусаў, якія пад час Другой сусветнай вайны, выратоўвалі яўрэяў ад вынішчэння фашыстамі.**

Ізраільскі амбасадар Марцін Пелед-Флэкс уручыў ганаровыя дыпломы Праведнікаў і памятныя медалі 5 чалавекам — жыхарам Мінска Леаніду Путану і Галіне Зюльковай, Пятру Аляксееву з Гомеля і Анастасіі Шышок з вёскі Парэчча Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці. Адна ўзнагарода была ўручаная пасмяротна — дыплом на імя Кацярыны Куляшэўскай атрымаў яе ўнук Пётр Куляшэўскі.

Прысваенне звання «Праведнік Народаў Свету» займаецца ізраільскі мемарыяльны інстытут Катастрофы і Геpaізму еўрапейскага яўрэйства «Яд Вашэм». Спецыяльная камісія, якую ўзначальвае Галоўны суддзя Вярхоўнага суда Ізраіля, вывучае матэрыялы і паказанні сведкаў, на падставе якіх прымаецца рашэнне аб прысваенні звання Праведніка. На памятным медалі, які атрымліваюць Праведнікі, выгравіраваны надпіс «Хто выратаваў адно жыццё — выратуе ўвесь свет». Апроч таго, імя Праведніка заносіцца на мемарыяльную сцяну ў інстытуце «Яд Вашэм». На сёняшні дзень ужо больш за 20 тысяч чалавек у свеце атрымалі тытул Праведніка Народаў Свету. ■

# Праезд праз пушчу — за грошы

Аддзел інфармацыі

Зараз для таго, каб праехаць па тэрыторыі Белавежскай пушчы, трэба плаціць грошы. Уладальнікі аўтамабіляў з беларускімі нумарамі за разавы праезд па тэрыторыі пушчы павінны заплаціць 200 тысяч рублёў; з аўтобусаў і грузавых аўтамабіляў бяруць 500 тысяч. Іншаземцам давядзецца плаціць больш — ад 5 да 10 долараў ЗША. Ад уплаты збору вызваляецца службовы аўтатранспарт, а таксама ветэраны, пенсіянеры, і тыя, хто мае сельсгаснадзелы на тэрыторыі пушчы. ■

ГАСПАДАРКА

# Стратэгічная задача магілёўскага сельгасначальства

## У Магілёўскай вобласці надзвычайная сітуацыя — моцна знізіліся надоі ў Шклоўскім раёне

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

На 30% менш цяпер збіраюць са шклоўскіх кароў вадкага «белага золата». Па гэтым паказчыку землякі прэзідэнта знаходзяцца на апошнім месцы ў вобласці. Трэба адзначыць, што гэта не было б асабліва страшна, бо ў нашай вёсцы агульны крызіс і занепад. Але надзвычайная сітуацыя наступіла для сельгасначальства. Праз некалькі месяцаў прыедзе сам прэзідэнт на любімыя «Дажынкі». Прычым прыедзе менавіта ў Шклоўскі раён. Сявята павінна будзе дэманстраваць чарговыя перамогі беларускай вёскі, якія яна зрабіла ў выніку мудрай палітыкі прэзідэнта.

А статыстыка сведчыць, што апошні па вобласці паказчык у шклоўцаў і ў жывёлагадоўлі. Практычна не нагульвае мяса тутэйшая скаціна. Лічбы знізіліся больш чым у два разы. Абласное ўпраўленне сельскай гаспадаркі цяпер мае для сябе стратэгічную задачу на ўсё лета: шклоўскія надоі ўзняць, прывесы павялічыць. Кіраваць гэтым працэсам будзе спецыяльна прызначаны чыноўнік высокага рангу. Можна не сумнявацца, што да прэзідэнцкага свята каровы і свінні Шклоўскага раёна апраўдаюць высокі давер і рэзка падвысяць неабходныя лічбы! ■

ЭКАНОМІКА

# Сто мільёнаў долараў да Беларусі «не даехалі»

Алесь ДАШЧЫНСКІ

**Міжнародны валютны фонд вырашыў не выдзяляць Беларусі крэдыт каля 100 мільёнаў долараў у рамках праграмы надзвычайнага кампенсацыйнага фінансавання. Паведаміў пра гэтае рашэнне дырэктар Другога еўрапейскага ўпраўлення фонда Джон Одлінг-Смі, які прыязджаў у Беларусь у складзе чарговай місіі.**

Эксперты прыйшлі да высновы, што кіраўніцтва Беларусі не змагло выканаць дамоўленасцяў у сферы эканомікі, дасягнутых з МВФ у кастрычніку мінулага года. Па словах Джона Одлінга-Смі, беларускай эканоміцы ўласцівая «слабая грашова-крэдытная палітыка і марудны прагрэс у галіне структурных рэформаў, асабліва ў сферы лібералізацыі валютнага рынка. Разам з тым эканамічная сітуацыя становіцца ўсё больш цяжкай, узровень інфляцыі высокі». Пасля адмовы МВФ у чарговым крэдыце зніжаецца магчымасць прадастаўлення фінансавай дапамогі з боку іншых фінансавых інстытутаў. Беларусь жа па сваёй волі адмовілася ад эканамічных рэформаў і па гэтай прычыне не атрымоўвае крэдытаў ужо з 1995 года. Падчас сустрэчы з Джонам Одлінгам-Смі прэзідэнт Лукашэнка зрабіў выгляд, што і не разлічваў на крэдыты МВФ і спадзяецца толькі «на ўласныя сілы».

Падчас свайго візіту ў Беларусь Джон Одлінг-Смі сустрэўся з больш дасведчаным у эканоміцы спецыялістам, экс-старшынёй Нацбанка Станіславам Багданкевічам, які нагадаў, што беларускае кіраўніцтва не аднавіла валютны рынак, не перайшло да адзінага абменнага курсу валюты, да таго ж павялічылася грашовая маса. Па словах С. Багданкевіча, асабліва ўразіў місію МВФ прэзідэнцкі ўказ аб адміністратыўным цэнаўтварэнні, які «перакрэслівае ўсе надзеі на атрыманне крэдытаў ад міжнародных фінансавых структураў». Непрыбытковай беларускай эканоміцы як паветра патрэбныя інвестыцыі, на думку С.Багданкевіча, яны павінны складаць не менш 30 працэнтаў (па афіцыйнай статыстыцы цяпер іх 16-19 працэнтаў). У нас вялікая дружба з Расіяй, Кітаем, В'етнамам, але ж там няма тэхналогіяў, інвестыцыяў і капіталаў. Усё гэта ёсць у цывілізаваным свеце. Па словах С.Багданкевіча, сваёй нядалай эканамічнай палітыкай беларускае кіраўніцтва паглыбляе самаізаляцыю не толькі ў палітычнай, але і ў эканамічнай сферы. ■

ЦЫТАТА НУМАРА

**Мне заўсёды прыемна, калі прэзідэнт дорыць кветкі. А што з таго? Гэтага прэзідэнта абраў народ. Дык вось вам, народ, кветкі ад прэзідэнта. Звярніце ўвагу, як апладыруе пасля гэтага глядзельная зала. Калі ўжо гаварыць пра прэзідэнта, пра асобу — ён прыгожы, моцны, гаварыць, што думае. І ў Расіі яго любяць.**

*Генадзь ДАВЫДЗЬКА*

*Газета «Народная воля», 27 траўня 1999г.*

# З ліпеня Мінск убачыць ваенны парад

БелаПАН

3 траўня ў Мінску адбудзецца ваенны парад у гонар 55-й гадавіны вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Плануецца, што ў гэты дзень па сталічнай плошчы Незалежнасці пройдуць выкладчыкі, слухачы і курсанты Ваеннай акадэміі, выхаванцы Мінскага ваеннага суворўскага вучылішча, падраздзяленні розных відаў і родаў войскаў. Будзе прадстаўленая баявая тэхніка, у тым ліку зенітныя ракетныя комплексы С-300. ■

# «Не» — прымусоваму размеркаванню

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У нядзелю 30 траўня «Маладая Грамада» з дазволу Мінгарвыканкама будзе праводзіць на плошчы Якуба Коласа пікет супраць прымусовага размеркавання выпускнікоў ВНУ ўвогуле і супраць размеркавання ў Чарнобыльскую зону ў прыватнасці.

Па дадзеных афіцыйнай статыстыкі, у раёнах, якія пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС, працуе зараз 85 працэнтаў маладых медыкаў і настаўнікаў, якія прыехалі туды тры гады таму. Бракуе спецыялістаў у галіне сельскай гаспадаркі.

У 1998 годзе з 325 выпускнікоў вышэйшых навучальных установаў краіны, размеркаваных у Гомельскую вобласць, на месца працы прыбыло толькі 20 працэнтаў. ■

# Альпинисты — «трактористы»

Отдел информации

Команда альпинистов Минского тракторного завода намерена в июне этого года подняться на вершину Эльбруса, чтобы доставить туда флаг и вымпел своего предприятия. Свое восхождение альпинисты хотят посвятить 50-летию выпуска на заводе первого трактора «Беларусь». Все члены команды, а их восемь, постоянно работают на МТЗ. Сумма расходов на организацию восхождения может составить около 2 тысяч долларов. ■

# Граница прирастет флотом

Отдел информации

Белорусские пограничники намерены создать речной флот для охраны речных и озерных границ республики. Об этом заявил председатель Государственного комитета пограничных войск Беларуси Александр Павловский.

В ходе состоявшейся во вторник в Минске пресс-конференции, приуроченной к празднованию 28 мая — Дня пограничника, А.Павловский отметил, что только на речном участке белорусско-украинской границы в ближайшее время будут нести службу 10 судов различного класса. ■

# Дапамагчы дзецям палітзняволеных

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Прэс-цэнтр Хартыі'97 распачаў новую акцыю, мэта якой — дапамога дзецям беларускіх грамадзянаў, пасаджаных у турму па крымінальных артыкулах за свае палітычныя перакананні.

З гэтай мэтай некаторыя з дзяцей (усяго ў спісе ўжо 15 чалавек) былі сфатаграфаваныя разам, а фотаздымак разасланы ў польскія сродкі масавай інфармацыі разам з тэкстам, у якім польскіх грамадзянаў просяць прыняць дзяцей у сябе дома на некаторы час з мэтай іх адпачынку і псіхічнай рэабілітацыі. ■



Дзеці цяперашніх і былых беларускіх палітзняволеных Андрэя Клімава, Уладзіміра Лыско, Рыгора Кійко, Вячаслава Сівучыка і брат Вадзіма Лабковіча

ПАРТЫІ

# Супрацьстаянне

## Ці закране партыі зачыстка палітычнага поля, што пачалася ў Беларусі?

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Крыху больш за месяц засталося да заканчэння перарэгістрацыі, арганізаванай уладай для палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў і прафсаюзаў.**

У мінулым нумары мы ўжо паведамілі аб рашэнні міністэрства юстыцыі не рэгістраваць статут апазіцыйнай кампартыі. Нагадаю, што лідэр ПКБ Сяргей Калякін не выключае, што гэтую перарэгістрацыю могуць не прайсці многія арганізацыі, і хутка ў Беларусі можа наогул не застацца легальнай апазіцыі. З гэтай думкай цяжка не пагадзіцца, бо прыйшоў надышоў час, калі Аляксандру Лукашэнку сталі непатрэбныя такія вонкавыя атрыбуты дэмакратыі як шматпартыйнасць і апазіцыя. Перад Лукашэнкам маячыць дата 20-га ліпеня, калі скончыцца тэрмін ягоных прэзідэнцкіх паўнамоцтваў, і ўрады заходніх краінаў наўрад ці прызнаюць яго далейшую легітымнасць. Напрыклад, Злучаныя Штаты ў нядаўняй заяве дзяржпартамента ўжо ўскосна пацвердзілі свой намер не прызнаваць паўнамоцтваў Лукашэнкі і заклікаюць да гэтага і еўрапейцаў.

Уплываць на пазіцыю Еўропы і Амерыкі адносна Беларусі ў Лукашэнкі няма ніякіх магчымасцяў, таму не выключана, што ён паспрабуе ўзяць часткова рэванш унутры краіны. Сваю помсту Захаду нелегітымны прэзідэнт пачне з закрыцця апазіцыйных партыяў, прафсаюзаў і незалежных СМІ. Арганізаваны ўладамі працэс перарэгістрацыі тут вельмі дарэчы, асабліва калі камісію па выдачы новых ліцэнзіяў на дзейнасць партыяў і рухаў узначальвае такі правераны ідэалагічны баец, як палкоўнік Замяталін. У Беларусі заканчваецца дэмакратычны спектакль для заходняга гледача, які цягнуўся пяць гадоў, і каманда яго пастаноўшчыкаў ужо рыхтуецца зняць дэкарацыі. ■

## Як рыхтуюцца і чаго чакаюць ад перарэгістрацыі прадстаўнікі вядучых апазіцыйных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў Беларусі?




**Анатоль КРЫВАРОТ** *(выканаўчы сакратар управы БНФ):*

— У пачатку траўня мы падалі на перарэгістрацыю ў мін'юст наш статут, а днямі збіраемся перадаць міністэрскім чыноўнікам і астатнія дакументы. Пакуль не ведаем, як ідзе працэс перарэгістрацыі. Канешне, цалкам верагодна, што гэтай перарэгістрацыі мы не пройдзем, але сыходзіць у падполле на сваёй зямлі мы не жадаем. БНФ будзе падаваць дакументы на паўторную рэгістрацыю, калі трэба, звернемся ў суд. Фронт — адкрытая арганізацыя, і за намі стаіць многа людзей. ■



**Павел КАЗЛОЎСКІ** *(кіраўнік мінскай гарадской арганізацыі АГП):*

— Зараз у нас заканчваецца працэдура пацверджання людзьмі свайго членства ў партыі, і пасля 1 чэрвеня мы пададзім міністэрству юстыцыі ўсе нашыя дакументы. Па неафіцыйнай інфармацыі ад крыніцы з прэзідэнцкай адміністрацыі, «усенароднаабраны» рыхтуе прэзідэнцкія выбары ўжо восенню гэтага года, і натуральна, што ніякіх апазіцыйных кандыдатаў да ўдзелу ў іх Лукашэнка не дапусціць. Таму ён і арганізаваў гэтае шоў з перарэгістрацыяй. ■



**Анатоль СІДАРЭВІЧ** *(кіраўнік справамі ЦК БСДП «Народная грамада»):*

— Дакументаў на перарэгістрацыю мы не падавалі, чакалі, які адказ дасць мін'юст камуністам. Не выключана, што такія ж праблемы са статутам, як былі ў ПКБ, будуць і ў сацыял-дэмакратаў. Напрыклад, у нашым статуце ёсць такія «некантытуцыйныя», з пункту гледжання ўладаў, тэрміны, як Вярхоўны Савет, і адмаўляцца ад іх мы не збіраемся. Аднак, калі ўлады нас не перарэгіструюць, сыходзіць у падполле мы не збіраемся, будзем шукаць іншыя легальныя метады барацьбы з рэжымам. ■



**Генадзь БЫКАЎ** *(старшыня Свабоднага прафсаюза):*

— На мінулым тыдні мы падалі дакументы на перарэгістрацыю, але спадзяванняў, што яе пройдзем, мала. Наш прафсаюз, а таксама БНФ, АГП, ПКБ і «Народная Грамада» ўяўляюць для Лукашэнкі рэальную пагрозу, таму іх у першую чаргу і закрыюць. З прафсаюзаў і партыяў яшчэ хочуць злупіць нямала грошай за так званую «пастанову на ўлік пярвічных арганізацыяў». Але са Свабоднага прафсаюза яны грошы не атрымаюць, няхай не спадзяюцца. ■



**Яўген ЛУГІН** *(старшыня Беларускай сялянскай партыі):*

— Камісія па перарэгістрацыі партыяў і прафсаюзаў, створаная Лукашэнкам, з'яўляецца незаконным органам, таму Сялянская партыя адмаўляецца ўдзельнічаць у гэтай кампаніі і аб'яўляе байкот прэзідэнцкаму дэкрэту № 2. Але мы не спынім сваю дзейнасць. Яшчэ перад т.зв. рэферэндумам-96 мы перавялі частку сябраў партыі на работу ў нелегальных умовах, і за гэты час яны набылі значны вопыт. Для публічнай работы члены БСП будуць дзейнічаць у грамадска-палітычных аб'яднаннях і прафсаюзах. ■

ЗНЕШНІЯ ЗНОСІНЫ

# Аперацыя «Драздзы-2»

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Чэшскую амбасаду прымушаюць з'язджаць з утульнага асабняка ў Бранявым завулку. Гэтую інфармацыю пацвердзіў НАВІНАМ часовы паверанны Чэшскай Рэспублікі ў Беларусі сп.Алеш Фойцік.**

На выезд з абжытага месца ў чэшскіх амбасадараў ёсць яшчэ час, але рэчы ўжо паціху пачынаюць збіраць. «Зазначу, што беларускія ўлады зараз не чыняць нам тэхнічных або іншых перашкодаў, але пераезд ёсць пераезд. У нас кажуць: лепш двойчы згарэць, чым адзін раз пераехаць», — трымаючыся за сэрца, кажа сп.Фойцік.

Ёсць ад чаго ўздыхаць. Праблемы з пераездам пачалі адчувальна ўскладняць працу амбасады. Ужо 10 гадоў у будынку ў Бранявым завулку месцяцца спачатку чэшскае гандлёвае прадстаўніцтва, а потым амбасада. Тэрмін арэнды, праўда, у канцы мінулага года скончыўся, але ў чэхаў былі ўсе падставы спадзявацца, што беларускія ўлады пойдуць насустрач і падоўжаць арэнду. Галоўны аргумент на карысць гэтых планаў — выдатная сітуацыя з беларускай амбасадай у Празе. Чэшскі ўрад зрабіў усё, каб беларуская амбасада зарэгістравала будынак як сваю ўласнасць. Гэта, згодна з чэшскімі законамі, дазволена толькі сваім грамадзянам і юрыдычным асобам, але для беларусаў было зроблена выключэнне. І як аддзякавалі беларусы? Напрыканцы мінулага года чыноўнікі з прадпрыемства «Дыпсервіс» кіраўніцтва справамі прэзідэнта паведамілі чэхам, што ў 1999 годзе арэнда будынка па адрасе Бранявы завулак, 5а падоўжаная не будзе, амбасадзе прапануюцца на выбар іншыя памяшканні. Перамовы паміж Прагай і Мінскам ішлі доўга. Чэхам не хацелася губляць зручнае і абжытае месца ў цэнтры Мінска, але ў рэшце рэшт прыйшлося шукаць іншыя варыянты. Выбралі будынак у Музычным завулку, 1, які належыць камерцыйнай фірме «Білім». Там зараз ідзе рамонт. Абвешчана, што ў новым памяшканні амбасада пачне працаваць з 7 ліпеня.

Што стала прычынай «выпіхвання» чэхаў з дома ў Бранявым, застаецца тайнай. Крыніцы ва ўладных структурах тлумачаць, што чэшская амбасада мяжуе з рэзідэнцыяй у Вайсковым завулку, дзе беларускі прэзідэнт сустракаецца са сваімі гасцямі. Маўляў, не дзіва, што Лукашэнка вырашыў застрахавацца ад «небяспечнага» суседства з «натаўцамі». Але афіцыйна гэтае тлумачэнне не афішуецца. «Не падоўжылі дамову, вось і ўсё», — кажуць у кіраўніцтве справамі прэзідэнта.

Нам жа здаецца, што галоўная прычына «заварушкі» вакол Бранявога завулка — гэта мінулагодняя падзеі ў Драздах. Нагадаем, тады паслы заходнееўрапейскіх краінаў і ЗША былі выселеныя з сваіх рэзідэнцыяў у пасёлку Драздзы па загадзе беларускага прэзідэнта. У знак пратэсту амбасадары з'ехалі з Мінска. З краінаў былога сацыялістычнага лагера актыўна падтрымалі дэмарш заходнееўрапейцаў і амерыканцаў Польшча, Балгарыя, Румынія, Славакія і Чэхія. Пры гэтым у кіраўніка чэшскай місіі ніколі не было рэзідэнцыі ў Драздах. Не выключана, што чэшскім дыпламатам салідарнасць з Захадам ужо адгукнулася. На чарзе, па звестках, балгарская амбасада, будынак якой знаходзіцца побач з чэшскай. Як паведамілі балгарскія дыпламаты, яны б хацелі застацца ў сваім будынку, але гэтая перспектыва пад вялікім пытаннем. «На гэты конт вядзецца дыялог з беларускім бокам», — лаканічна заявіў НАВІНАМ часовы паверанны Балгарыі Васіл Петкаў. ■

МНЕНИЕ СТРАНЫ

**Какова вероятность бомбежки Беларуси войсками NATO?**



**КИЛИНЧИК Анатолий,** нач. отдела в фирме

— Нет, это невозможно. Хотя я сам имел предложение ехать воевать в Югославию, и в случае начала войны отмолотили бы мы это NATO, но этого не будет. Если же все-таки будет, то я бы воевал на стороне Беларуси, несмотря на Лукашенко. Правители приходят и уходят, а Беларусь остается.



**ШИРКОВА Татьяна,** медик

— Конечно, реально. Почему? Потому что близко, потому что государственные системы схожи. Война — это всегда страшно, и я как медик буду просто оказывать помощь пострадавшим.



**НОТА Александр,** артист Оперного театра

— Нет. Никогда. Беларусь очень мирная республика, за что нас бомбить? И вообще, зря будет, если наше правительство в нечто подобное вмешается. Если же начнется третья мировая война, а это она и будет, вряд ли кто-то выживет, и смысла кому-то помогать не вижу.



**Александр,** рабочий

— Такая вероятность есть. Бомбить будут не только Беларусь, но и Россию, ибо они лезут во все дыры, куда не следовало бы.



**Анатолий,** студент БГУ

— Нет, мне кажется. При чем тут «бульбандия»? Я знаю, конечно, что Лукашенко что-то там грозил NATO, но он же и Беларусь в рай грозился привести.

Вопросы задавал Алексей ШИДЛОВСКИЙ

памяць XX стагоддзя 1905

# «Песню над імі вецер пяе»

**Міхаіл МАТУШ**

Нашае стагоддзе пачыналася падобна на ўсе папярэднія стагоддзі — буйной вайной. Чаму так дзеецца на свеце — цяжка адказаць, але вось: 1807 год — бітва трох імператараў пад Аўстэрліцам, XVIII стагоддзе — Паўночная вайна, XVII стагоддзе — паходы на Маскву шклоўскага Ілжэдзімітрыя, XVI стагоддзе — паходы Масквы на Беларусь, 1410 год — Грунвальдская бітва, XIV стагоддзе — бітвы з крыжакамі. І гэтак далей. 1905 год не парушыў традыцыю, бо адзначаны вайной паміж Японіяй і Расіяй, якая перайшла ў першую расійскую рэвалюцыю з Крывавай нядзеляй у Пецярбурзе, Курлоўскім расстрэлам у Мінску, барыкадамі ў Маскве. З падзеяў 1905 года засталіся ў шырокай памяці некалькі, дзякуючы не столькі ўрокам гісторыі, колькі сіле мастацтва. Кіно надало бессмяротнасць крэйсеру «Пацёмкін», паўстанню ў Севастопалі экіпажа крэйсера «Ачакаў», які расстрэльвала берагавая артылерыя, а матросаў, што ўратаваліся з карабля, забівалі штыкамі на беразе карныя роты.

Наўрад ці мы памяталі б пра кананерскую лодку «Карэец» і крэйсер «Вараг», калі б не песні «Плещут холодные волны» і «Вараг». Апошняя з цягам часу набыла статус гімна мужнасці і няскоранасці. Яна як разгорнуты варыянт таго адказу, які дала старая гвардыя Напалеона англічанам пад Ватэрлоо на прапанову здацца ў палон. Адказ быў такі:



Браняносец «Пацёмкін» у Адэскім порце. Чэрвень 1905 г.

«Гвардыя не здаецца!» Гвардзейцы стрымалі слова і былі расстраляныя карцечным агнём. На «Варагу» служыла 570 чалавек, сярод іх было нямала беларусаў. Пасля боя з японскай эскадрай, калі «Вараг» вярнуўся на рэйд карэйскай бухты Чэмульпа, 122 марака былі забітыя, усе гарматы пашкоджаныя, а барты мелі 6 прабоінаў. Экіпаж затапіў крэйсер, каб не здаваць яго японцам. У кінафільмах, калі трэба паказаць мужнае прыняцце лёсу, матросы (марская пяхота) спяваюць:

*...Врагу не сдается*
*наш гордый «Варяг»,*
*Пощады никто не желает...*

Як ні дзіўна, аўтарам тэкста гэтай урачыстай песні аказаўся не член экіпажа, які стаяў на палубе ў апошнім парадзе, і наогул не марскі чалавек. Словы напісаныя паэтэсай А. Студзёнскай, музыка народная. Дзякуючы гэтай чуллівай жанчыне ўвайшлі ў лік фразеалагізмаў словы «Прощайте, товарищи, с богом, ура!».

Неўзабаве пасля вайны прагматычныя японцы паднялі крэйсер, і ён пад назвай «Сойя» быў у складзе іх ваенна-марскога флота. У 1916 годзе яго выкупіў царскі ўрад, крэйсеру вярнулі старую назву, і ён пайшоў у Англію на рэканструкцыю. Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі англічане забралі «Вараг» сабе, але карабель паслужыў брытанцам меней за год і затануў у 1918 годзе ў Ірландскім моры.

Для бітваў з японцамі расійская імперыя за два гады правяла 9 мабілізацыяў, выправіўшы на Далёкі Усход 1 мільён 200 тысяч салдат. З іх 400 тысяч загінулі ці сталі калекамі. Самыя цяжкія баі адбываліся ўзімку 1905 года пад Мукдэнам. Варагуючыя бакі сутыкнулі 510 тысяч салдатаў пры 2.537 гарматах. Шырыня фронту складала 150 кіламетраў. Тут загінула з расійскага боку 89 тысяч, з японскага — 71 тысяча салдат. Удзельнічаў у гэтых вынішчальных баях Макшанскі полк. Макшанец А.Машыстаў напісаў сумны верш у памяць аднапалчанаў, якія паляглі на манчжурскіх сопках, а капельмайстар палка Ілля Шатроў на гэтыя словы напісаў музыку «ў тэмпе вальса». Пачаткова песня была палкавая, пра што сведчыла яе назва «Макшанскі полк на сопках Манчжурыі». Пра канкрэтны полк даволі хутка забыліся, бо такіх палкоў было больш за сорак, а вальс набыў папулярнасць і ўвайшоў у рэпертуар усіх духавых аркестраў. Раней, калі ваенныя аркестры гралі па нядзелях для публікі ў скверах, музыканты абавязкова выконвалі гэты вальс. Яго сумная мелодыя стала сімвалам той бяздарна прайгранай вайны, змарнаваных сілаў і сродкаў, загубленых жыццяў, галечы ўдоваў.

І сёння, напрыканцы стагоддзя, вальс «На сопках Манчжурыі», песні «Вараг» і «Плещут холодные волны» не выйшлі з ужытку. Калі давядзецца іх пачуць, дык варта ўзгадаць тых нешчаслівых нашых продкаў ці землякоў, што ляжаць у брацкіх магілах на манчжурскай зямлі ці на дне карэйскай бухты Чэмульпа, і пасмуткаваць, што толькі «вецер над імі песню пяе». ■

СВЕЦКАЕ ЖЫЦЦЁ

# Андрис Лиепа готов отказаться от российского гражданства

**Егор ИВАНОВ**

**Артист балета Андрис Лиепа направил в комиссию по исполнению закона о гражданстве сейма Латвии документ с подтверждением готовности отказаться от гражданства России.**

Ранее комиссия по исполнению закона о гражданстве не приняла решения о предоставлении латвийского гражданства за особые заслуги перед государством Андрису Лиепе, поскольку не получила подтверждения того, что Лиепа откажется от российского гражданства.

Этот вопрос комиссия вновь рассмотрит 8 июня, когда Лиепа приедет в Ригу. Если комиссия примет позитивное решение, Лиепа обратится с ним в посольство России в Латвии для получения документа, что он более не является гражданином России.

Андрис Лиепа — звезда балета мирового значения и сын широко известного балетного танцовщика Мариса Лиепы. ■



*«Права – гэта не тое, што хтосьці Вам дае, а тое, што ніхто не можа ў Вас адабраць»*
***Рамзей Кларк,***
***былы генеральны пракурор ЗША**, 1977*

Праграма ProMedia Прадстаўніцтва IREX на Беларусі сумесна з Кансультацыйна-назіральнай групай АБСЕ і прадстаўніцтвам Еўрапейскай Камісіі ў Беларусі аб'яўляюць конкурс **"Журналісты на карысць верхавенства закону"** для журналістаў друкаваных сродкаў масавай інфармацыі Беларусі.

Конкурс мае на мэце падняць узровень прававой культуры ў грамадстве праз распаўсюджванне інфармацыі пра ўсталяванне верхавенства закону, грамадзянскія правы і абавязкі ў беларускім грамадстве.

Прэміі будуць прысуджаныя за лепшы артыкул у наступных намінацыях:

- **Правы чалавека/ Грамадзянскія абавязкі**
- **Свабода слова і друку/Доступ да інфармацыі**
- **Права на карысць эканомікі**

Асноўнымі крытэрыямі пры прыняцці рашэння аб прысуджэнні прэміі з'яўляюцца:

- Актуальнасць,
- Аб'ектыўнасць і бесстароннасць у асвятленні праблемы,
- Пабудова артыкула на канкрэтных фактах,
- Асветніцкі напрамак,
- Арыгінальнасць падачы матэрыяла.

**Да разгляду будуць прымацца артыкулы, надрукаваныя паміж 3 мая 1999 года і 15 кастрычніка 1999 года памерам не болей за 2 500 словаў.**

Апошні тэрмін падачы артыкулаў на конкурс — 1 лістапада 1999 года. Пераможцы будуць аб'яўленыя 24 снежня.

Пераможцаў чакаюць:

- Партатыўны камп'ютар
- Стажыроўкі ў СМІ краінаў Заходняй і Усходняй Еўропы
- Лічбавая фотакамера ды іншыя каштоўныя прызы.

Журы складаецца с прадстаўнікоў міжнародных і грамадскіх арганізацыяў, журналістаў.

Нумар газеты, дзе Ваш артыкул надрукаваны, суправаджальны ліст і кантактную інфармацыю дасылайце, калі ласка, на адрас: 220005, Мінск, п/с 90 з пазнакай **на конкурс**.





**БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ запрашае на публічныя лекцыі**

**1 *чэрвеня***
Юрась Барысевіч
Нэкрафілія і патрыятызм у сучаснай культуры

**8 чэрвеня**
Беларускі ПЭН-цэнтр. Сустрэча з К.Шэрманам і Р.Барадуліным

**15 чэрвеня**
Сямён Падокшын
Царкоўная унія: праблема дасьледваньня і гістарычны сэнс

**22 чэрвеня**
Прээнтацыя даведніка «Дэмакратычная апазіцыя Беларусі: 1956-1991 гг.» з удзелам рэдактара А.Дзярновіча і аўтараў

**29 чэрвеня**
Уладзімір Падгол
Мэнталітэт сучаснай беларускай нацыі: структура і трансфармацыі

Лекцыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы Я.Купалы (актавая заля) па адрасе: вул. В.Харужай, 16

Пачатак лекцыяў у 18:30

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць **па тэл. 256 -36-13**

ФЕСТЫВАЛІ

# Пабазарым, сябра?

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**З 19 па 25 ліпеня ў Беларусі пройдзе чарговы фестываль «Славянскі базар у Віцебску».**

Ужо сфармаваны аргкамітэт фестывалю. У яго ўвайшлі, апроч беларускіх чыноўнікаў рознага рангу, намеснікі міністраў культуры Расіі і Украіны Анатоль Тупікін і Уладзімір Ражок, расійская поп-спявачка Надзея Бабкіна і – у якасці сустаршыні – зорка беларускай прапаганды віцэ-прэм'ер Уладзімір Заматалін. У сераду камітэт сабраўся на сваё першае паседжанне.

Па словах арганізатараў, чакаецца, што ў шоў суперславянізма возьмуць удзел больш за 4 тысячы артыстаў з 30 краінаў свету, фестываль будзе складацца з больш чым 90 канцэртаў. У параўнанні з мінулымі фестывалямі гэты скарочаны з дзесяці да шасці дзён, але, як зазначыў У.Замяталін, на якасці «Базара» гэта не адаб'ецца.

Сёлета «Славянскі базар у Віцебску» пройдзе без канкурэнцыі – аналагічныя расійскі і ўкраінскі сканалі, і гэта не можа не радаваць арганізатараў.

Магчыма, што ў лік краінаў-сузаснавальніцаў разам з Беларуссю, Расіяй і Украінай увойдзе і шматпакутная Югаславія – прамаруджванне тут толькі «тэхнічнае». Адзінае, чаго цяпер не хапае югаслаўскаму народу для поўнага шчасця – гэта ўдзел іхняй краіны ў «Славянскім базары». Асабліва калі ўлічыць, што ад заснавальнікаў патрабуюцца вялікія фінансавыя выдаткі.

Што датычыць фінансаў, то тут пакуль усё да канца не вызначана. Бюджэт фестывалю складаецца з чатырох частак. Па-першае, гэта 9,5 мільёна расійскіх рублёў з агульнага бюджэта Выканкама Беларусі і Расіі. Уласна беларускіх грошай тут 40% або 3,8 мільёна расійскіх рублёў (каля 150.000 долараў). І гэта адзіная вядомая лічба. Апроч таго, кожная краіна-удзельніца фестывалю мусіць выдаткаваць пэўныя сродкі за ўдзел сваіх спевакоў. Падкіне грошай з бюджэта і беларускі ўрад – на правах гаспадара. Колькі – невядома. І, нарэшце, арганізатары чакаюць дапамогі ад спонсараў і аматараў дабрачыннасці. Цікава, што мядовавусны Уладзімір Замяталін прапанаваў стаць спонсарам нават нашай газеце – але мы адмовіліся.

На фестываль запрошаныя такія расійскія «зоркі», як Філіп Кіркораў, Валерый Лявонцьеў, Ігар Крутой. Але далёка не ўсе запрошаныя змогуць прыехаць у Віцебск. Узначаліць конкурснае журы прапанавана Сафіі Ратару. ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 551 Нумар падпісаны ў друк 27/05/99 (15:00) Наклад — 21.270